# Самапомач

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

Год V. | Вільня, Чэрвень 1936 г. | № 6.

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ
*(Ірляндзец).*



# ЗЬМЕСТ №6 (47)



## Ceny ŭ Vilni

*26.VI.36. Ceny za 100 kilohram.*

**Zbožža.**

| | |
|---|---|
| Žyta . . . . . . . . . . . | 13.25—14.00 |
| Pšanica . . . . . . . . . . | 20.00—21.50 |
| Jačmień na pansak . . . . . | 14.00—15.00 |
| Avios . . . . . . . . . . . | 13.50—14 50 |
| Hračycha . . . . . . . . . . | |
| Muka pšaničnaja . . . . . . | 22.25 - 36.25 |
| Muka žytniaja da 50°/o . . . . | 22.75 23.00 |
| Muka razovaja da 95°/o . . . | —17.00 |
| Votruby pšaničnyja . . . . . | 10.00—10 25 |
| Votruby žytnija . . . . . . . | 9.25— 9.50 |
| Łubin sini . . . . . . . . | 8.00—8.75 |

**Małočnaje za 1 kilo (27.VI 36)**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 1.90—2.00 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.20 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 1.80—1.90 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.10 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie . . | 1 40—1.80 |
| „ „ „ „ u detalu . . | 1.60—2.20 |
| Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie | 2.40— 2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.00 |
| Jajki, kapa . . . . . . . . . . | 3 30—4.80 |
| „ za štuku . . . . . . . | 6 – 9 hraš. |

**Miasnoje, 25.VI.36.**

*Za kilo žyvoj vahi:*

| | | |
|---|---|---|
| **Bydła:** | stadniki . . . . . . . . | 0.38—0,53, |
| | karovy . . . . . . . . . | 0 35—0,50 |
| | cialaty . . . . . . . . | 0 45—0.50 |
| **Švini:** | . . . . . . . . . . . | 0.70—0 75 |
| **Miasa:** | vałpvina, całyja štuki . . | 0.70 – 0 75 |
| | vałovina, zady . . . . . | 0 95—1.15 |
| | vałovina, pierady (košar) . | 1 00—1.20 |
| | cialacina . . . . . . . . | 0.65—0.75 |
| | švinina . . . . . . . . | 1 00—1.20 |
| **Skury syryja:** | bydlačyja pa 1.00—1.10 zł. za kolo | |
| | cialačyja — 6.00 – 6.25 zł. za štuku. | |



# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Červień 1936 h. | Nr. 6 (47). |
|---|---|---|


*Kooperatyŭna-ḫaspadarskija naviny.*

**Mižnarodny Dzień Kooperacyi.** Mižnarodny Sajuz Kooperatyvaŭ śviatkuje sioleta 14-ty raz supolny Dzień Kooperacyi. Z pryčyny hetaha śviata toj-ža Mižn. Sajuz Koop. vydaŭ sioleta adumysnuju adozvu, u jakoj abviaščaje:

„Kooperatyŭnaja haspadarka adroźnivajecca ad kapitalistyčnaj ŭ nastupnych punktach:

I. Na miescа zysku adzinki stavić jana službu dla ahułu. Kooperacyja naładžvaje supracoŭnictva j znosiny pamiž svaich siabraŭ na celym śviecie, a ŭ Mižnarodnym Kooper. Sajuzie maje rehulatar dla ŭstanaŭleńnia narušanaj roŭnavahi pamiž ludzkimi patrebami i praduk-cyjaj.

II. Kooperacyja adbiraje ad kapitału jahonaje panujučaje stanovišča ŭ haspadarcy i na jahonaje miesca stavić ludzkuju jednaść pry supracoŭnictvie i ŭzajemnaj dapamozie.

III. Tavarnymi zvarotami kooperacyja zabiaśpiečvaje spažyŭcu, jaki žyvie z ruk pracy, biespasiaredniuju hrašavuju vyhodu i adčyniaje jamu darohu da matarjalnaj niezaležnaści.

IV. Ziemlarobu - pradučentu kooperacyja zabiaśpiečvaje miž inšym zvalnieńnie jaho ad lichviarskaha vyzysku pry kupli mašyn i inšych haspadarskich patreb, a taksama zbyt jahonych praduktaŭ za naležnyja ceny choć i biaz vyzysku spažyŭca

V. Vialikaj častcy hramadzianstva kooperatyŭnaja haspadarka zabiaśpiečvaje biezpasiarednija karyści, biaz uvahi na stan i stanovišča.

VI. Kooperatyŭnaja haspadarka daje mahčymaść raźviazać prablemu biezraboćcia i prablemu zarabotnaj płaty dy ahulnych umovaŭ pracy, na padstavach najbolš vyhodnych i realna najbolš mahčymych."

Dla nacyjanalnych kooperatyŭnych arhanizacyj Mižn. Sajuz Kop. damahajecca:

1. roŭnaj i nieahraničanaj svabody raźvićcia tak, jak jaje maje kožnaje inšaje zakonna dazvolenaje pradpryjemstva;

2. zakonnaj abarony z boku dziaržavy pry vykonvańni svaich nieparušnych hramadzkich pravoŭ;

3. pryznańnia asablivaha haspadarskaha charaktaru i vystarčalnaha zabieśpiačeńnia samaŭpravy kooperacyi ŭsiudy tam, dzie zavodzicca dziaržaŭnaja planovaja haspadarka.—

U deklaracyi hetahaž Sajuzu z pryčyny „Dnia Kooperacyi" padčyrkniena, što Sajuz i dalej trymajecca: 1. volnaha i dabravolnaha siabroŭstva, 2. demokratyčnaha samaŭpraŭleńnia, 3. zasady zvarotu ad zakupaŭ, 4. pradažy za hatoŭku, 5. palityčnaj i relihijnaj tolerancyi, 6. ahraničeńnia pracentaŭ ad pajovaha kapitału, 7. uspamohi kooperatyŭnaha vychavańnia.

Jak bačym, volnaja kooperacyja, nie zvažajučy na modnyja siahońnia dyktatury, mocna staić pry zasadach **demokratyčnaha samaŭpraŭlańnia.**

Heta adznaka koopyracyi robić jaje da peŭnaj miery metaj dla naładžvajučajsia kooperacyi biełaruskaj. Siańnia kooperacyja na našych ziemlach choć jość biełaruskaj u sapraŭdnaści, — bo-ž siabry našych kooperatyvaŭ heta blizu vyklučna **biełarusy**, — adnak, dziakujučy nasadžanamu źvierchu čužomu kiraŭnictvu, svajo zapraŭdnaje abliča nia moža vyjavić, a tamu nia moža naležna i raźvicca. Hetki stan adnak, treba vieryć, pierachodny. Jon praminie z tym časam, jak siabry kooperatyvaŭ naležna ŭśviadomiacca **nacyjanalna i hramadzka**, kali buduć mahčy pierabrać kiraŭnictva ŭ svaje ruki.

Dyk spatykajem i pravodzim Dzień kooperacyi z pažadańniem, kab jak najchutčej heta ŭśviedamleńnie pryjšło. Budzie heta na karyść i kooperacyi, jak tokoj, i našamu Biełaruskamu Narodu.

---

**Uhodki — Vystaŭka — F. O. N.** Sioleta, jak viedama, minuła 25 hadoŭ isnavańnia polskaha sajuzu spažyvieckich kooperatyŭ „Społem!" Śviatkavańnie hetych uhodkaŭ adbyłosia ŭ dnioch 12—13 14 červienia na źjeździe delehataŭ ad sajuznych kooperatyvaŭ. Akramia spravazdačy z haspadarskaj dziejnaści Sajuzu, byli pračytany referaty ideolohičnyja, z katorych na asablivuju ŭvahu zasłuhoŭvaje referat staršyni Sajuzu p. M. Rapackaha, na temu: „Haspadarčaja prahrama spažyvieckich kooperatyvaŭ". Z źmiestam hetaha referatu paznajomimsia ŭ nastupnym numary „Samapomačy".

* * *

Adnačasna, z pryčyny tych-ža ŭhodkaŭ, była naładžana vystaŭka spažyvieckaj kooperacyi.

* * *

Jubilejny źjezd „Społem!" vynies pastanovu, kab Sajuz vypłaciŭ na F.O.N. 5.000 zł. i zaklikaŭ usie kooperatyvy, jakija naležać da

# Сельская гаспадарка.

## Новы Год.

Новыя чытачы „Самапомачы" няхай не падумаюць, што тут будзе нейкі жарт. Чытачы нашы з гадоў папярэдніх ведаюць, што гаспадарскі год у земляробстве сапраўды пачынаецца ў палове календарнага году. Прычын на гэта ёсьць дзьве: у гэту пару канчаюцца ўсе запасы „старога" году (сена, салома, збожжа, усякае зерне і ў гэту-ж пару робіцца плян абсеву палё/ на год наступны. Справу запасаў старога году пакінем тут на старане, а пагаворым аб укладаньні пляну абсеву палёў на год наступны.

Польная гаспадарка ёсьць асновай, на якой апіраецца жывёлагадоўля і ўся гаспадарка як цэльсьць. Таму, калі ня хочам раптам апынуцца ў тупіку, мусім абсейваць поле не ад выпадку да выпадку, што дзе і як папала, але гэты абсеў так укладаць, каб прадбачанага ўраджаю цалком хапала на пракармленьне ўсяе гаспадарскае жывёлы, ну і пэўна-ж — самой гаспадаровай сям'і. Аб гэткім разьмяркоўваньні трэба думаць якраз у пару жніва, пасьля каторага пачынаецца адпаведнае абрабляньне зямлі пад тую ці іншую культуру*). З усім націскам паўтараем: жніўная пара гэта апошні мамэнт дзеля выканчэньня пасеўнага пляну на новы і наступныя па ім гады.

Што трэба ведаць пры ўкладаньні абсеўнага пляну? Ад чаго пачынаць?

Адказ на гэта просты: трэба дакладна ведаць якасьць і колькасьць усіх грунтоў у гаспадарцы і колькі якога жывога інвэнтара мае гэта гаспадарка ўтрымаць.

Аблічаць плошчу кожнага поля, кожнай ніўкі, найлепш у вальнейшы час восенскі. Але, калі хто ня мае гэтага, той хай адложыць адзін адабедак і абойдзе свае ніўкі, меручы на гэты раз хоць-бы сваім **роўным** крокам кожную такую ніўку ўздоў-ж і ўпоперак. Больш дакладна зьмерыць можна поле якойсь мерай. Адзінкай меры хай будзе ўсюды сягоньня прыняты мэтр. Перамножыўшы даўжыню кожнай ніўкі на ейную шырку, атрымаем ейную плошчу ў квадратных мэтрах (qm). Пры мейсцы ўспомнім, што гэктар мае 10 000 qm (квадр. мэтраў).

Выгодай абходу палёў у гэту пару ёсьць тое, што разам можна лепш праканацца аб я к а с ь ц і грунту на кожнай ніўцы і аб ейнай вільгатнасьці. Гэта трэба добра сабе запамятаць, бо ад гэтага залежа, якую культуру (які гатунак расьліны) можна даць на тую ці іншую ніўку. Надмерную вогкасьць (вільготнасьць) у глебе паказваюць такія расьліны, як шчаўе, малачай, хвошч („ёлачка"), гуголь і інш. Ведаючы хоць прыблізную якасьць грунту і запасы вогкасьці, можна мяркаваць якая расьліна на той ці іншы грунт больш адпаведная. — Гэтулькі аб ābшары і свомасьці поля.

Дальшай канешнасьцю ёсьць — абрахаваць запатрабаваньне корму для ўсяе гадаванае жывёлы і параўняць гэта запатрэбаваньне з спадзяваным ураджаем. Тут дакладна абрахаваць усяго ня можна, бо ў ураджаю год ня роўны году. Прынята пры гэтым дзяліць год на дзьве няроўныя часткі, або йнакш, на дзьве кармавыя пары: вясьняна летнюю і васеньне-зімавую. Першая з іх — у нашых кліматычных варунках — цягнецца прыблізна 5—6 месяцаў (ад м ца мая да кастрычніка ўключна), а другая — 6—7 месяцаў ад лістапада да красавіка. Гэты падзел аблягчае аблічаньне пашы. Гаспадаркі, якія маюць досыць сенажаці, а можа нават і пасьбішча (але пасьбішча добрае, а ня самы толькі выбіты выган) не патрабуюць звычайна шмат клапаціцца аб пракармленьні скаціны праз лета. Зусім інакш прадстаўляецца справа ў тых гаспадарках, дзе сенажацяў няма ідзе ня толькі зімавое, але й летняе пратрыманьне скаціны залежа ад тых ці іншых пасеўных мешанак. У гэткіх гаспадарках прынята летнюю пару кармленьня скаціны дзяліць на гэткія чатыры пары: 1. ад самай раньняй вясны і да канца мая, 2. месяц чэрвень, 3. ме-

*) У с.-гасп. літаратуры пад гэтак ужытым словам „культура" разумеецца гатунак пасеўнай расьліны, як збожжа, акопніна, стручковыя, сенажаці.

---

„Społem'u", kab taksama źbirali hrošy na hetu samuju metu.

UVAHA: F.O.N. — heta fond (kasa) na vajennaje zbrajeńnie Polščy.

**Kooperacyja u novaj Savieckaj Konstytucyi.** U apublikavanym prajekcie novaj Savieckaj konstytucyi, u parahrafie siomym, stanovišča kooperacyi ŭ savieckim sajuzie aznačajecca hetak: „hramadzkija pradpryjemstvy ŭ kolektyŭnych haspadarkach i ŭ kooperatyŭnych arhanizacyjach, z ichnym žyvym i miortvym inventarom, praduktami, vyrablenymi abo dabytymi ŭ kolektyŭnych haspadarkach i kooperatyvach, a taksama ichnyja budovy, jakija służać ahulnamu dabru, — źjaŭlajucca hramadzkim socyjalistyčnym dabrom kolektyŭnych haspadarak i kooperatyŭnych arhanizacyj".

Vidać z hetaha, što kooperacyja ŭ savieckim sajuzie stavicca zrazu-ž paśla ŭstanovaŭ i pradpryjemstvaŭ kazionnych. Heta pakazvaje, što ŭkładčyki prajektu novaj savieckaj konstytucyi pa 18-cihadovych ciažkich dośledach nad hramadzkim paradkam nie znajšli lepšaj jak kooperacyja formy d a b r a v o l n a j arhanizacyi hramadzianstva.

Dobraje heta paśviedčańnie dla žyvučaści kooperatyŭnaje ideil

сяцы ліпень-жнівень і 4) месяцы верасень-кастрычнік.

Для пракармленьня аднэй каровы ў 1-шую пару (м-ц май) найбольш адпаведнай ёсьць мешанка касматай вікі з жытам ці пшаніцай (усё сеецца ўвосені). Для аднэй каровы на **дзень** абсейваецца больш менш 15 кв. мэтраў поля, а на месяц — 450 кв. м.*).

Наступная пара (м-ц чэрвень) гэта пара канюшыны: белая (дзяцеліна) добра выпасываецца на полі, а чырвоная—косіцца і скармліваецца ў хляве І тэй і другой на штуку й дзень так-жа рахуюць прыблізна 15 кв. м., а на месяц—у 30 разоў больш, або 450 кв. м.

Ад першых дзён м-ца ліпня пачынаецца пара ўсякіх стручковых, якія, каб стала былі сьвежымі, трэба сеяць (з вясны) праз кожныя два тыдні, рахуючы на штуку й дзень 15 – 20 кв. м., залежна ад урад-кайнасьці поля. Урэшце на восень — м-цы верасень кастрычнік — добрым кормам для каровы ёсьць сэрадэля ўсяваная ў збожжа, а таксама па аржышчы высееная віка або пялюшка.

Колькі каму трэба ўсяго гэтага засеяць, хай кожны абліча сам паводле вышэй пададзеных нормаў.

Добрым зімовым кормам для каровы ёсьць мурожнае сена. Але ў бязсенажатных гаспадарках трэба абыходзіцца канюшынай або сэрадэляй. Пры''ята рахаваць на штуку скаціны на цэлую зіму канюшыны 2.000 кв. м., а сэрадэлі — 3.000 кв. м. — Хто сее кармовыя буракі для скаціны, той рахуе на зіму для аднэй штукі каля 45 мэтрычных цэнтнараў*) (па 20 кілё ў дзень), на якія мусіць засеяць кусок поля ў 1.000 кв. м.

Важнай урэшце справай ёсьць аблічаньне патрэбнай саломы, як на корм, так і на падсьцілку. Вот-жа на падсьцікку на зімовую пару на штуку рахуюць каля 15 мэтр. цэнт. і на лета 5, разам 20 мэтр. ц. Да гэтага даходзіць запатрэбаваньне саломы на падсьцілку іншай жывёле, на крыцьцё стрэх, а таксама на сечку. Ураджай-жа саломы жытняй бывае на вагу двойчы большы чым ураджай зерня. Іншыя збажавіны даюць саломы значна менш.

Ведаючы запатрэбаваньне кожнага гатунку пашы і наагул усякіх гаспадарскіх расьлін, прыступаць трэба да састаўленьня севазвароту. Кіравацца пры гэтым трэба наступнымі правіламі:

I. часьцей як цераз шэсьць гадоў не даваць па сабе на адно поле таких расьлін, як: чырвоная канюшына, гарох і наагул стручковыя расьліны (з выняткам канюшыны белай); няможна так-жа сеяць сам па сабе і лён;

II. па расьлінах, якія закарэньваюцца глыбака, як лубін канюшына, павінны прыйсьці расьліны, што закарэньваюцца плытка (збожжа);

III. па расьлінах, якія глебе азот даюць (усе расьліны стручковыя, матыльковыя), трэба даваць расьліны, якія з глебы азот забіраюць (збожжа, акопніны).

---

*) Плошчу ў квадратных мэтрах вылічаем памнажаючы шырку даўжынёй. Калі напр. даўжыня нейкага поля будзе 45 м. а шырыня 10 м., дык памножыўшы 45 на 10 атрымаем 450. Але гэтую самую лічбу (450) можам атрымаць і пры іншых разьмерах поля: напр. 30 м. удоўжкі і 15м. ушыркі ($30 \times 15 = 450$), або 90 м. удоўжкі і 5 м. ушыркі ($90 \times 5 = 450$), або $60 \times 7^1/_2 (= 450)$ і г. д

*) мэтр. цэнтнар мае 100 кілё.

---

*DA NAŠYCH PČALAROŬ.*

# U spravie asadžvańnia pčalinych rajoŭ.

U źviazku z zaciemkaj u apošnim numary „Samapomačy“ p. n. „Jak asadzić roj“, chaču padzialicca z Pavažanymi čytačami navinami ŭ hetaj-ža spravie, jakija, praŭda, ja nie prarabiŭ dahetul asabista, ale ab jakich daviedaŭsia z najnaviejšaj fachovaj litaratury.

Vot-ža, kab pčoły zachacieli asieści ŭ padstaŭlanaj im na tyčcy rajnicy (hladzi ab hetym „Samapomač“ № 5), treba ich zamanivać u takuju rajnicu jakoj-niebudź miadadajnaj raślinaj. Najlepš da hetaha prydatnaj byvaje **melisa**. Vykarystoŭvujecca pry hetym naturalny hon pčały da takich kvietak, dzie možna spadziavacca miodu. Pčała tut pracuje niazvyčajna silna raźvitym u jaje niucham i tamu treba pasieku i vulli nasampierš dačysta vyčyścić, pamiatajučy, što pčała nia pojdzie ŭ vulej, u jakim budzie tuchlina, kiśla ci tak niejki niapryjemny zapach. Heta varunak kaniešny i pieršy.

Druhoj spravaj jość — nasiejać u pasiecy dosyć melisy, kab jana ŭ śviežym stanie zaŭsiady była pad rukoj.

Kali pčoły pačynajuć vychodzić rojem z vulla, dyk pieršym zadańniem pavinna być: niedapuścić, kab jany škiroŭvalisia da adlotu z pasieki. Dziela hetaha ŭ paru rajeńnia treba być cały čas na pasiecy i jak tolki zaŭvažycca vychad roju, treba sarvać kolki kalivaŭ melisy, raściorci jaje ŭ rukach (kab bolš pachnuła), ukinuć u pryviazanuju da tyčki rajnicu i čakać.

Kali roj nie padyjmajecca vyšej jak 3 – 4 metry, dyk tady navat nie patrebna i rajnica. U takim vypadku chapajem kolki kalivaŭ melisy, raścirajem jaje ŭ rucce i padkidajem u pčaliny kłubok tak, kab kožnuju padajučuju halinku nie dapuścić da ziamli, ale jaje padchapić i ŭznoŭ dalej padkidać. Pry spraŭnym padkidańni zapach melisy zvabić pčoły apuskacca ŭsio nižej i nižej, až da samoha čałavieka, jaki hetu melisu padkidaje. Tady, uściaž raścirajučy ŭ rukach melisu, treba pavolna jści da taho vulla, ŭ katory chočam novy roj asadzić. Vulej musić być čysty i mieć załožanyja ramki z dobraj vaščynaj. Adčyniŭšy zatvor vulla,

IV. расьліны, якія ачышчаюць глебу ад пустазельля (акопніны) чаргаваць з расьлінамі, якія расьці пустазельлю не перашкаджаюць (збожжа);

V. Што датыча здольнасьці выкарыстоўваць сьвежую гнойную сілу глебы, дык ўсе гаспадарскія расьліны дзеляцца на гэткія тры групы:

а) расьліны, якія сьвежа паложанага хлеўнага гною **патрабуюць**: бульба, капуста, бручка, кармовыя буракі;

б) расьліны, якія сьвежа паложаны гной толькі **церпяць** і найлепш удаваліся-б толькі ў другой зьмене па хлеўным гнаі: авёс, мак, травы, цукровыя буракі, бульба і

в) расьліны, якія **вельмі цяжка** могуць карыстаць з сьвежа паложанага гною: лён ячмень, грэчка, пшаніца, жыта, каноплі. —

Дзеля ўсяго гэтага збожжа ніколі ня можна сеяць на сьвежа-пагноеным груньце, а бульбу найлепш садзіць на груньце пагноеным яшчэ з восені. Вясной гнаіць глебу пад бульбу можна толькі на грунтох лёгкіх.



*ПЕРШАЙ РАБОТАЙ пры абрабляньні глебы пад усякую расьліну ёсьць мелкае ўзараньне (зябленьне) аржышча. Дык узорывайце аржышча, як толькі пажнеце збожжа!*



## Думайце аб пашы на восень.

Сухая сёлетняя вясна і пачатак лета заскупіліся на пашу. А што будзе ўвосені? Аб гэтым трэба думаць ужо цяпер.

Кепска гэта сьведчыць аб гаспадарскім спрыце тых нашых земляробаў, што „ўздыхаюць“ і спадзяюцца пашы на аржышчы. Гэта вялікая абмылка. А нават можна сказаць, што хто гэтак думае, той падсякае той сук, на каторым сядзіць; а ўжо напэўна нішчыць тое, што чуць-чуць неяк зрабіў. Бо й як-жа йначай гэта назваць? Сьляпы хіба толькі ня бачыць, як шкодным бывае ў збожжы рознае пустазельле (трава, сарняк). І аднак чалавек наш, хоць на словах часта й прызнае гэта, то аднак.. чакае, каб на ягоным аржычы зазелянела трава для згаладалай скаціны. Ці-ж гэта ня ёсьць самаашуканства, а нават і ашуканства? Так, гэта ёсьць самаабман, за які пасьля плаціць вялікую кару сам-жа гаспадар-земляроб.

Кожны-ж гаспадар мусіць сказаць сабе выразна, ці ён хоча гадаваць на сваіх палёх добрае збожжа, ці дзікую траву: адно або другое! Злучыць гэтага ня можна, бо адно другое выключае і ёсьць недапушчальным марнатраўствам.

Але вернемся да справы самае пашы. Вот-жа, калі збожжа было добрае, — а ў добрага гаспадара яно такім быць мусіць заўсяды, дык аржышча па ім мусіць быць чыстае і на ім ніякае пашы няма. Але гэтага мала: для ўраджайнасьці глебы вельмі важнай ёсьць ейная **будова**. Вот жа збожжа па-

ukidvajem usiaredzinu kaliva raściortaj melisy, začyniajem vulej, adčyniajem lotku na ŭsiu šyrku i... pčoły pačynajuć sami viasioła ŭłazić u vulej. Kali hetak udasca ŭviaści ŭ vulej matku, dyk usiu rabotu možna ličyć skončanaj: rešta roju ŭvojdzie i raźmieścicca ŭ novym pamieškańni. Kali-ž pčalinuju matku ŭviaści ŭ vulej zrazu nia ŭdasca, dyk pčoły ŭvajšoŭšy ŭ vulej varočajucca ŭznoŭ nadvor, kruciacca prad vullom „u młynka“ i, hołasna źviniačy, kličuć da siabie matku. Kali matka pryjdzie — usia maładaja siamja zajmaje svajo **novaje** pamieškańnia, — a kali nia pryjdzie, dyk i pčoły pamału varočajucca ŭ toj matačny vulej, z katoraha vyjšli.

Na vypadak, kali roj zrazu pojdzie vysaka, tady biez rajnicy abyjścisia ŭžo nia možna. Kab nia vypuścić takoha roju z hranic pasieki, jaho treba staranna abkidyvać kalivami paciortaj melisy, a jak roj pačnie źbiracca ŭ jakimniebudź adnym miescy, tady ŭ siaredzinu takoha roju treba padstavić pryviazanuju na tyčcy rajnicu, u katoruju prad tym było ŭłožana kaliva paciortaj melisy. Kali-b pčoły na pačatak hetaje rajnicy nie zaŭvažyli i ŭ jaje sadzicca nie chacieli, tady treba rajnicu apuścić, nakidać u jaje novaj paciortaj melisy i ŭznoŭ padniać: uvojduć.

Kali roj pačnie asiadać, tady rajnica pamału apuskajecca i padnosicca da taho vulla, u katory chočam pčoły asadzić. Pastupajem pry hetym sposabam užo apisanym, h. zn. u vulej ukidvajem kaliva melisy, adčyniajem lotku na ŭsiu šyrku i ŭpuskajem roj u vulej. Jak bolšaść roju piarojdzie ŭžo ŭ vulej, tady reštu pčoł z rajnicy strasajem na došku prad lotkaj i heta rešta ŭchodzić u novaje pamieškańnie.

Uvieś hety sposab asadžvańnia pčoł jošć niavyprabavanaj jašče navinoj. Być moža, što znojducca tut jašče niejkija trudnaści, u rodzie takich, što nia ŭsiaki hatunak pčoł akažacca tak pasłuchmianym, kab ślepa jšci za volaj pčalara tudy, kudy jon jaho pakiruje. Pry dakładnym i zručnym adnak vykonvańni vyšej apisanych čynnaściaŭ hety sposab byccam zaŭsiady viadzie da mety. Što-ž da charaktaru pčały, dyk niaviedama tymčasam jak inšyja hatunki, ale pčoły čystaj rasy slavianskaj vielmi pasłušny.

*M. Vaičok.*

кідае па сабе глебу моцна паднішчанай. І калі пасьля збожжа пусьціць на аржышча скаціну, дык яна гэту будову зьнішча да астатку, так што ўвосені прыйдзецца ўсё пачынаць спачатку. —

Словам, аржышча як пасьбішча, гэта самаабман і марнатраўства. Калі-ж думаць аб пашы на восень і хацець выкарыстаць на гэта аржышча, дык трэба паступаць інакш: трэба гэта аржышча абсеяць сумыснымі травамі і травяністымі мешанкамі. Як гэта робіцца?

Наўперад трэба зазначыць, што ўраджай пааржысных траваў і мешанак залежа ад двух чыньнікаў: ад пасьпеху пасеву і ад дастатку вогкасьці (вільгаці).

Што датыча часу пасеву, дык тут правілам ёсьць, каб пасеяць, **як найраней**. Дзяля гэтага — а гэта **ў усякім выпадку** — ўсякае аржышча трэба **зараз-жа** мелка ўзараць (падзябіць).

Для абсеву такіх узараных аржышчаў трэба выбіраць расьліны хутка-растучыя. На грунты добрыя высейваецца мешанка вікі з гарохам, аўсом і ячменем. На раньніх аржышчах сеюць часам нават лён, толькі, ведама, не на пашу, а на валакно. — На лягчэйшых грунтох добра ўдаецца белая гарчыца і вялікая пашная грачыха (татарка). Можна яе мяшаць разам, або з дадаткам гароху і вікі. Калі сеецца гарчыца адна, дык на гэктар (10.000 квадратных мэтраў)даецца 40 кілё. Грачыхі аднэй на такі-ж самы гэктар даецца каля 115 кілё. У мяшанцы даецца на гэктар 25 кілё гарчыцы і 60 кілё грачыхі.

На пасеў гэткай мешанкі аржыча зразу зябіцца і зараз-жа на баразну высейваецца мешанка, якая пасьля двойчы прыбарануецца і прыцісьнецца гладкім валам. Цераз 7—9 тыдняў ужо гатовай бывае паша, якую найлепш бывае касіць, рэзаць на сечку і даваць скаціне, перамяшаўшы з сечкай саламянай або з мякінай.

Добрым таксама кормам для кароў ёсьць пааржысная ангілцкая рэпа, інакш званая **турніпс** Патрабуе аднак лепшых грунтоў. Высейваецца на гэктар сьвежа ззябленага аржышча 3 кілё, лёгка прыбарануецца і прывалкуецца. Уважным трэба пры гэтым быць, каб было насеньне праўдзівага ангіцкага турніпсу, бо іншая рэпа такога ўраджаю ня дасьць. Як толькі турніпс абойдзе і дасьць першыя два лісткі, поле зараз-жа баранyецца (ўпоперак), каб зьнішчыць пустазельле (траву), а сам турніпс трэба прарываць, каб ня быў за густы.

*К. М.*



*ЗЕМЛЯРОБЕ!*

*Усякае пустазельле, а перад усім сьвірэпка, пырнік, лебяда, асот — гэта Твае ворагі. Нішчыць іх трэба заўзята і стала!*



## Łaźbiny.

U paniaćci pieršaha-lepšaha pčalara łaźbiny heta meta, dziela jakoj hadujucca pčoły. Nia možna adnak hetaj „metaj“ zaślaplacca i nia bačyć taho, što niaŭmiełyja łaźbiny mohuć być pachovinami ŭsiaje pčalinaje siamji. U čym sprava? A ŭ tym, što vybraŭšy ŭvieś, ci blizu ŭvieś miod, pakidajem pčoł biez zapasu, na łasku i niałasku hoładu. Dahadvacca, što „jšče budzie čas“ i pčoły zapas miodu dapoŭniać — nia možna, bo hety čas moža być, a moža i nia być: zaleža ad stanu pahody. Daznanyja pčalary kažuć, što „lepš pieradać jak niedadać“, dy što „zapas miodu ŭ vulli heta toje samaje, što hrašovaja aščadnaść u banku“. Dziela hetaha asnaŭnym praviłam łaźbinaŭ jość „nie pierabirać!“

Zapas miodu na zimu musić być 12 15 kilohramaŭ. Rachujučy, što ramka samoha vulla Dadant-Blatta maje kala 2 kilo miodu, treba pčołam, zimujučym na volnym pavietry, pakidać dobra zašytych 7 **ramak** miodu.

Druhaja sprava, ab jakoj treba pamiatać, heta toje, što navat majučy ŭdoval cukru na padkormku pčoł, nia možna tolki im zdavolicca, bo cukram mohuć karmicca tolki samyja daśpiełyja pčoły. Dla raźviććia ž pčalinaha płodu patrebny kanieśna miod, bo tolki jon maje ŭ sabie patrebnyja białki, katorych cukar nia maje. — Z hetaha praviła vyniatak jość tolki dla pčoł z miodam lasnym, jaki ciažej straŭlajecca ŭ pčalinym žyvacie i tamu moža być pryčynaj niebiaśpiečnaj niastraŭnaści ŭ pčoł.

Urešcie, nia ŭvieś vyniaty miod možna zrazu vyrampoŭvać na miodahoncy: čaść dobra šytaha miodu treba pakinuć u plastroch dla padkormki na viasnu. I tolki što astaniecca z usiaho hetaha, možna vybirać na spatrabavańnie j prodaž.

A ciapier kolki słoŭ ab paradku pracy pry łaźbinach. Naŭpierad treba ŭsio patrebnaje zahadzia pryhatavać, kab nia treba było adłatać ad pracy, pakidajučy vul razłožanym. Što ž treba pryhatavać?—Kab nia vybrać i nia vykinuć niejdzie ŭ travu pčalinaj matki, treba dla źmiatańnia pčoł z plastra pryhatavać šyrokaje denka, a kali takoha denka niama, dyk choć čystuju b i e ł u j u pościełku. Dalej, treba mieć kazły dla sastaŭlańnia ŭ paradku vy-

# Пазнаваньне гадоў каня паводле зубоў.

Вартасьць каня ці то ў гаспадарцы, ці ў якой іншай службе заўсяды цесна зьвязана з ягонай старасьцю. Маладзейшы конь—пры роўных свомасьцях іншых — заўсяды будзе больш варты чым конь старэйшы. Дзеля гэтага пазнаваньне гадоў каня мае заўсяды вялікае значэньне.

Ёсьць шмат на гэта знакоў. Малады конь бывае жывейшым, мае круглейшую (овальную) галаву, выпуклы лоб, вышэйшыя ногі, ніжэйшы выступ хрыбетніцы над лапаткай (холка), карацейшую стаячую грыву. Супроць гэтага старшы конь звычайна мае ўжо прытуплену:о жывасьць, над вачамі зьяўляюцца глыбокія ямкі, а пад споднім павекам — моршчына, уся галава і цэлы склад цела становіцца выразна кантаватым, поўсьць на галаве мясцамі сівее, а белыя коні — „ржавеюць". —

Усе гэтыя азнакі аднак вельмі агульныя. З большай прыблізнасьцю можна пазнаць гады каня толькі паводле ягоных зубоў і дзеля таго над гэткім пазнаваньнем крыху даўжэй тут і застановімся. Перш аднак мусім сказаць сабе, што такое зуб сам сабой прадстаўляе? Вот-жа:

Зуб — гэта найцьвярдзейшая часьць цела жывёлы наагул. Заклінены ён бывае ў касьцях верхняй і ніжняй ськівіцы і служа для перажуваньня ўсякай пашы, а ў некаторай жывёлы — і дзеля абароны. Збудаваны зуб з трох розных цьвёрдых матар'ялаў, пайменна: 1. з жоўта-белай **зубавіны** (г. зв. дэнтін), 2. з празрыста-шклістай **эмалі** і 3. з **зубнога цэмэнту**. У цэласьці сваей — з вонкавага выгляду — зуб можа быць падзелены так-жа на тры часьці: самую верхнюю, якая знаходзіцца над дзяснай — **каронка**, сярэднюю - ў дзясьне — **шыйка** і ніжнюю, пад дзяснай, у касьцяным гняздзе ськівіцы—**корань**.

Ведама, што зубы бываюць вьменныя або малочныя і сталыя. Вот-жа падзел зубу на каронку, шыйку й корань бывае выразны толькі ў зубе малочным, у каторым паміж каронкай і каранём ёсьць выразная шыйка. Зуб сталы мае форму больш-менш роўнага кліна — найшырэйшага ў каронцы і ступянёва вузеючага ў кірунку караня. У кожнай часьці зубу ёсьць жоўта белая зубавіна; эмаль пакрывае толькі каронку, а цэмэнт пакрывае корань зубу. Усярэдзіне зубу, ад караня ўверх, знаходзіцца зубная шчуплавіна (дупло, дзіра), у якой умешчаны крывяносныя начыньні і нэрвы.

Дзеля пазнаваньня гадоў каня паводле зубоў важны два мамэнты: мамэнт прарастаньня й выпаданьня малочных зубоў і мамэнт сьціраньня сталых пярэдніх зубоў.

Дарослы конь мае агулам, у абедзьвюх ськівіцах, 40 зубоў, якія дзеляцца гэтак:

$$\frac{6\ (1)\ 6\ (1)\ 6}{6\ (1)\ 6\ (1)\ 6}$$

Як разумець гэткае разьмяшчэньне?—Лінія перадзелу аддзяляе верхнюю ськівіцу ад ніжняй. Верхняя і споднян шасьцёркі(6)пасярэдзіне гэта пярэднія зубы каня, наагул ведамыя як рэзакі. Абапал рэзакоў (1) знаходзяцца клыкі і ўрэшце з кожнага боку, у верхняй і споднян ськівіцы, знаходзяцца па 6 зубоў

branych ramak z miodam. Pčalarski nož, dymnik i zbanok z čystaj vadoj musiać być pad rukoj: vada patrebna na toje, kab čas ad času abmačyć u joj nož, ci ščotku, jakoj źmiatajucca z ramki pčoły.

Samych łaźbin nia možna pačynać ani ranicaj, ani viečaram, kali ŭsie pčoły rabočyja siadziać sabraŭšysia ŭ vulli. Kiepska taksama łazbavać i ŭ samy poŭdzień Prad łaźbinami tak-ža treba staranna vymyć miodahonku.

Paradak samaha łazbavańnia hetki: pierad usim supakoj, cišynia. Vul aściarožna adčyniajem, lohka padkuryvajem i čakajem, pakul pčoły z pieršych plastroŭ pieralezuć na dalšyja. Tady zdyjmajem vakonca, uznoŭ puścim krychu dymu i pačynajem vyjmać ramki. Kali pracavać umieła, dyk nia treba ani dymniku, ani sietki. Z vyniatych ramak źmiatajem pčoły i samyja ramki ŭkładajem na koźlik. Kali heta zroblena, vul uznoŭ składajem i adchodzim da nastupnaha. Starajmasia pry ŭsim hetym, kab nie nakapać miodu ŭ pasiecy, bo heta pryvučaje pčoł da kradziežy (da napadu).

Vybranyja ramki z miodam pamocnik chaj zaraz-ža adniasie da voddal pastaŭlenaj miodahonki i pačnie niečakajučy „vykručyvać" miod. Ab miodahoncy treba pastaracca, kab jana roŭna stajała, nia kratałasia, bo moža być niaščaście. Ustaŭlajučy ramki ŭ miodahonku treba ŭvažać, kab było roŭnaje abciažańnie: ramku stavić proci ramki. Prad ustaŭlańniem ramki ŭ miodahoŭku treba plastr „adčynić," h. zn. vostrym nažom hładka pazrazać samyja viarški, abo „zašyćcio" miadovych čaračak. Kab hetkaje zrazańnie było roŭnaje i skoraje, treba kab nož byŭ ciopły i navat haračy. Dziela hetaha pry miodahoncy treba mieć harščok z čystaj vadoj, jakaja zyspadu stała padahravałasia-b i ŭ hetaj vadzie taki nož treba stała trymać. Adkrytyja z adnaho boku plastry ŭstaŭlajucca ŭ miodahonku—adkrytaj staranoj nadvor — pa dva (adzin nasuproć druhoha) i vykručvajucca, spačatku vielmi pavoli. Kali adna starana plastru ŭžo vykručana, tady jon vyjmajecca, adčyniajecca z druhoha boku i ŭstaŭlajecca ŭ miodahonku niavypampavanaj staranoj navonki i taksama vykručvajecca.

Zdarajecca, što padčas vykručvańnia miodu plastr vyłomlivajecca z ramki. Pryčyny na heta mohuć być usialakija, najčaściej adnak zdarajecca heta, kali nia roŭna krucicca miodohonka. Kab zabiaśpiečycca ad vyłomlivańnia

кутніх, інакш ведамых як зубы каранныя. Вот-жа разам узята конь мае 12 (6+6) рэзакоў, 4 (1+1+1+1) клыкі і 24 (6+6+6+6) зубы кутнія. Да гэтага трэба дадаць, што клыкі мае толькі жарабец ды што часам прад першай парай кутніх зубоў у верхняй ськівіцы вырастаюць яшчэ па аднаму воўчаму зубу.

Нова-народжанае жарабя або ўжо мае, або да двух тыдняў яму вырастаюць па аднэй пары зубоў пярэдніх у абедзьвюх ськівіцах. Гэта першая пара рэзакоў завецца **клешчы.** Больш-менш адначасна з кляшчамі вырастаюць і першыя тры зубы кутнія (па тры зубы з кожнага боку і ў абеіх ськівіцах, знача разам — 12). Да 6—8 тыдняў зьяўляецца абапал кляшчоў другая пара пярэдніх зубоў, **сярэднякі**, а да 6—9 месяцаў зьяўляецца абапал сярэднякоў й трэцяя пара пярэдніх зубоў, якія называюцца **краякамі**, бо сядзяць на краю.

Цяпер пачынаецца сьціраньне зубоў. На кляшчох сьціраецца ямка да 1-га году, на сярэднякох да $1^1/_2$ году і на краякох — да 2-х гадоў. Знача конь з усімі малочнымі зубамі мае два гады.

Ад $2^1/_2$ да $4^1/_2$ гадоў адбываецца замена зубоў малочных на зубы сталыя ў гэткім парадку: да $2^1/_2$ гадоў выменьваюцца клешчы, да $3^1/_2$ гадоў — сярэднякі і да $4^1/_2$ гадоў — краякі. — У гэтым-жа часе выменьваюцца першыя тры зубы кутнія, дарастаюць клыкі (у жарабцоў), і дальшыя тры зубы кутнія. Такім чынам 5-цігадовы конь павінен мець усе зубы.



**№ 1. Зубы 5 гадовага каня.**
Сярэднія два — **клешчы**, далейшыя два зубы абапал клешчаў — **сярэднякі** і на краёх — **краякі**. Асобна сядзяць **клыкі**.

Ад пяцёх гадоў пазнаваньне веку каня паводле зубоў становіцца ўжо цяжэйшым. Гэта пазнаваньне адбываецца паводле сьціраньня зубных ямак пярэдніх зубоў. Гэтыя ямкі ў сподніх зубах маюць у глыбку больш-менш 6 см, а ў верхніх—двойчы гэтулькі, г. зн. больш-менш 12 см. Дзеля гэтага ямкі гэтыя ня роўна так-жа і сьціраюцца: у сподняй ськівіцы хутчэй чым у верхняй. У год сьціраецца (мялчэе) ямка ў кожным зубе больш-медш на 2 см.

Старыя зубы дарастаюць і пачынаюць аціраццa праз паўгоду пасьля вымены мачочных. Такім чынам клешчы пачынаюць аціраццa ўжо ад 3-х гадоў, сярэднякі — ад 4-х і краякі—ад 5-х. Кожная ямка сподняй ськівіцы сьціраецца праз 3 гады (6: 2), а ў верхняй — праз 6 гадоў (12: 2). Дзеля гэтага ў сподняй ськівіцы ямка сьціраецца на кляшчох да 6-х гадоў, на сярэднякох — да 7-х і

---

plastroŭ, pčalary dəduməlisia padpirać hetyja plastry sumyśla zroblenymi kratkami, jakija prystaŭlajucca da plastru z vonkavaha boku, h. zn. z taho boku, z jakoha vykručvajecca miod. Hetkija kratki robiacca z dzieraŭlanych lištvačak, pakryžavanych z saboj tak, što atrymoŭvajucca „vočki“ (kratki) pa 2 cm údoŭžki i ŭšyrki. Kratki hetkija musiać ciesna prylahać da vaščyny, a da ramak jany prymacoŭvajucca adumysnymi začepkami. Lištvy hetych kratak zasłaniajuć tyja čarački plastru, da katorych ciesna prylahajuć i tamu nie pazvalajuć im aparažnicca. Dziela hetaha treba kratki abo pieravaračyvać, abo tolki pierasuvać tak, kab zakrytyja spačatku čarački adsłanilisia i kab z ich takim čynam možna było vykrucić uvieś miod. — Vyparažnienyja ramki ŭstaŭlajem nazad u vul.

Kali chočam atrymać miod zusim čysty ad usiakich damiešak, dyk śvieža vypampavany miod źlivajem u čystuju sudzinu, jakuju ŭstaŭlajem u haračuju vadu. Tady miod stanovicca zusim redki i ŭsiakija damieški lohka vypłyvajuć na vierch, skul ich možna čysta sabrać.

Niezaležna ad taho, ci vypampavany miod padahravajem ci nie padahravajem, vypuskajučy jaho z miodahonki cedzim praz hustoje sita.

Miod maje tuju svomaść, što ŭsysaje ŭ siabie akružajučy jaho zapach. Dziela hetaha nia možna staŭlać miodu ŭ takija miascy, jak varyŭni, małočnyja sklapy i inš., bo miod napjecca tady ŭsiakaha kisłaha zapachu i staniecca niapryhodnym nia tolki na prodaž, ale i da spažyćcia ŭ chacie. Dziela hetaj ža pryčyny nia možna miodu nalivać u sudziny žaleznyja.

Urešcie treba viedać, što miod śviežy jošć niaśpieły: jon za nadta vadzianisty. A kali nia dać hetaj vadzie vyparycca z miodu, dyk taki miod śkiśnie. Dziela hetaha śvieža vypampavany i źlity miod nia možna zrazu nahłucha zakryvać ci zakarkovyvać: śviežy miod na pačatak treba źlić u sudzinu z šyrokim horłam i prykryć tolki čystaj redkaj tkaninoj. Hetak sabrany miod staŭlajecca ŭ pravieŭnaje miesca, na vyški ŭ chacie, najlepš pad blašanuju strachu. Kali chto maje 1 - 2 zbanki miodu, dyk moža ich vyśpielić u chacie, na sonieśnym aknie. Naturalna, ŭ takoj chacie musić być čysta i nia śmieje być nijakich pastaronnich vostrych zapachaŭ. V. Š-k.

на краякох — да 8-х гадоў. У верхняй ськівіцы гэтыя ж, але двойчы глыбшыя, ямкі сьціраюцца: на кляшчох да 9-х гадоў, на сярэднякох — да 10 гадоў і на краякох — да 11 гадоў. Пры ўсім гэтым ямкі аднак ня зьнікаюць бязсьледна: па іх астаюцца чарнявыя знакі, тым характэрныя, што ўвакруг іх знаходзіцца эмалявы кружок. Фальшаваныя знакі пасьля ямак па тым пазнаюцца, што каля іх няма гэтага эмаляванага кружка.



**№ 2. Зубы 8 гадовага каня.**
Ямка сьцёртая на ўсіх пярэдніх зубах дольнай ськівіцы.

Пазнаючы гады каня паводле сьціраньня ямак на пярэдніх зубах трэба ўзяць пад увагу, чым конь корміцца: мяккай (зялёная паша) ці цьвёрдай (авёс) пашай. Залежна ад гэтага і ямкі ў зубах сьціраюцца раз хутчэй, раз вальней. Акрамя таго на скорасьць сьціраньня зубных ямак маюць уплыў і розныя конскія наровы, напр. грызеньне жлобу і пад.

Урэшце, важным мамэнтам пры азначаньні веку каня ёсьць сам уклад зубоў. У моладасьці зубы верхнія блізу стацьма становяцца на зубы сподні і роўна сьціраюцца. З часам аднак зубы быццам выдаюцца ўперад, плюшчацца і дзеля таго пры сьціраньні не пападаюць акуратна верхнія на сподні. Ад гэтага сьціраньне бывае недакладным і тая часьць зубу, якая не пападае на другі зуб, вырастае, творачы гэтак званы **загрыз**. Здараецца ён на верхніх краякох і, што найцікавей — у даволі сталых водступах часу — на 9 і на 14 гадох. За кожным разам трызае загрыз больш-менш адзін год, і пасьля таксама сьціраецца.

**А. К.**

*(далей будзе).*

*Chto choča stała, biez pieraryvu, atrymoŭvać „Samapomač", toj musić zaraz-ža vysłać svaju składku na druhoje paŭhodzie.*

# Слоўца да тых, што купаюцца

Сонца, паветра, вада — ўсё гэта вельмі добра мацуе людзкія сілы, што ня мала паднішчыліся за год працы. Толькі трэба ўсяго ўжываць у меру. Гэта правіла аснаўное!

Мінула ўжо, можна сказаць, пара, калі жанкі й дзяўчаты асабліва баяліся загару: сягоньня загар стаўся модным. Адна толькі засьцярога для тых, хто маюць слабаватыя грудзі (нахіл да сухотаў) і сэрца: для гэткіх на сонцы грэцца доўга ня можна. Поўгадзіны, найвышэй гадзіна часу — зусім досыць. Асабліва трэба памалу прывыкаць да загару: першы дзень быць на сонцы 15—20 мінут і ў наступныя дні гэты час прадоўжываць па 10 мінут.

Для ахвотнікаў купаньня лекары даюць гэткія правілы: 1. ня йсьці купацца з поўным жыватом, але й з ня сусім тошчым: найлепш дзьве-тры гадзіны па абедзьве або зусім над вечар. 2. Ня можна скакаць у ваду будучы разагрэтым ці наагул зморанным. Наўперад трэба разабрацца ў халадку, або адпачыць хоць бы і на сонцы. Бо калі скочыць у ваду, будучы спацеўшым, дык можа схапіць сударгі жылаў або можна небясьпечна прастудзіцца. 3. Ня можна скакаць у ваду, глыбка каторай і наагул дно ня ведамы, бо можна гэтак трапіць на нешта вострае і прабіцца, або можна трапіць на вір, які пацягне на дно. Тут жа трэба зазначыць, што нават „вядомыя мясцы" ў праточных і агульна даступных асабліва водах вельмі часта бываюць таксама небясьпечнымі для скаканьня, бо нават і ў тых мясцох, дзе ўчора нічога небясьпечнага ня было, сягоньня можа нехта нешта ўкінуць, або гэткае „нешта" можа прынесьці з сабой вада. Дык асьцярожна! 4. У глыбокай асабліва вадзе ніколі ня купайцеся самі адны, але заўсяды з кімсь у таварыстве. 5. Калі вас часта хапае сударга рукі ці нагі, дык наагул будзьце асьцярожны з купаньнем і ні ў якім выпадку ня йдзеце на глыбокія мясцы. 6. Пакуль ня ўмееце добра плываць, або калі маеце слабое сэрца, дык ніколі не заходзьце на глыбіню.

А цяпер колькі слоў аб тым, як вучыцца плываць. Найлепш прыглядзіцца як плываюць добрыя плывакі і тады толькі пачынаць плываць самому, але не на глыбокім месцы. Калі ўжо думаеце, што ўмееце плываць і хочаце пусьціцца на глыбокую ваду, дык наўперад забясьпечцеся гэтак: перапіражэцеся пад пахі поясам ці наагул нечым моцным але мякчэйшым, а на плячох прывяжэце не цяжкую, але моцную вяроўку, якую на ўсякі выпадак няхай трымае на беразе ваш таварыш. Калі б

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

цяпер так сталася, што вы выбіваліся з сіл, дык той хто трымае вас за вяроўку, у кожную хвілю можа памагчы вам выплысьці на бераг. Калі бераг рэчкі раптам абрывіста-глыбокі, дык замест каб трымаць падважанага „вучня“ на вяроўцы, дачэпліваюць канец пояса да нягрубой але **моцнай** жордкі, пры помачы якой яшчэ лепш утрымліваць „вучня“ над вадой. Гэты апошні спосаб ужываецца асабліва тады, калі няма пад рукой мялчэйшага месца і ўжо першыя пачаткі навукі плываньня прыходзіцца рабіць на глыбокай вадзе. — Таксама добра бывае ня толькі для пачынаючага вучня, але і для кожнага плывальніка забясьпечыцца пры плываньні адумысным плывальным гумовым поясам ці хоць-бы толькі добра прыгатаваным мачавым пузыром.

Дзеля таго што падчас купелі вельмі часта здараюцца выпадкі ўтапаньня, падамо тут спосаб ратаваньня тапельніка. Перш за ўсё трэба глядзець, каб такі тапельнік не пацягнуў з сабой ратуючага на глыбіню. Бо ведама, што „топячыся чалавек хапаецца і за саломіну“, а за чалавека ён сударажна хапаецца за што папала, найчасьцей за руку, не даючы яму плыць і ў такім выпадку топяцца абодва. Першае, што трэба рабіць, калі бачым, што чалавека залівае вада, гэта кінуць яму з берагу вяроўку, якуюсь тычку і пры іх помачы прыцягнуць няшчаснага да берагу. Калі-ж пад рукамі нічога такога няма і трэба нечакаючы скакаць у ваду, дык першае аб чым трэба памятаць, гэта ня даццa каб тапельнік хапіў вас за руку ці нагу. Найлепш-жа хапіць такога тапельніка за валасы і плыць з ім да берагу. Калі тапельнік ужо страціў прытомнасьць і ня кідаецца, дык той хто ратуе, павінен легчы на плечы, абярнуць тапельніка таксама тварам уверх, узяць яго паміж кален і рукамі плыць да берагу. Вышягнуўшы такога тапельніка на бераг, трэба перагнуць яго праз калені тварам да зямлі, выбраць яму з роту балота ды ўдарыць пару разоў кулаком у патыліцу, каб адыйшла з горла рэшта вады і балота. Калі ўжо нічога не выцякае з роту, тады трэба зараз-жа пачаць спробы штучнага дыханьня.

*М. С.*

## ГАСПАДАРСКАЯ УСЯЧЫНА

### ЯК ДОЎГА ЖЫВЕ?

*Жывёла. Паводле ведамых з практыкі дадзеных, век паасобных жывёлін прадстаўляецца гэтак:*

| | |
|---|---|
| *Скаціна* | *20— 25 гадоў* |
| *сьвіні* | *15— 20 „* |
| *авечкі і козы* | *10— 15 „* |
| *коні* | *35— 40 „* |
| *аслы* | *80—100 „* |
| *мулы* | *40— 45 гадоў.* |
| *буйвалы* | *25— 20 „* |
| *вярблюды* | *20— 25 „* |
| *сланы* | *150—200 „* |
| *сабакі, каты* | *10— 15 „* |
| *Куры* | *10— 12 „* |
| *гусі, качкі* | *8— 10 „* |
| *Карп, шчупак, сом да* | *100 „* |
| *Акунь, судак, карась, плотка, марскі селядзец, лосась* | *— 15 „* |
| *Пчаліная матка* | *3— 5 „* |

*Аднак гаспадарчую вартасьць мае хатняя жывёла наступную:*

| | |
|---|---|
| *скаціна* | *да 11—12 гадоў* |
| *авечкі, козы, сьвіні* | *„ 7—10 „* |
| *хатняя птушка* | *„ 4— 5 „* |
| *конь* | *„ 17—18 „* |
| *сабакі і каты* | *„ 6— 8 „* |
| *вярблюды* | *„ 12—15 „* |
| *буйвалы* | *„ 14—16 „* |

*Расьліны. Век расьлін больш разнакі, чым век жывёлы. Ёсьць расьліны, якія жывуць усяго 20—30 мінут, а ёсьць дрэвы, што жывуць і 5.000 (пяць тысяч!) год. Найлягчэй аблічыць гады дрэваў, якія растуць у ўмяркаваным клімаце: гэткія дрэвы на папярэчным разрэзе, лічачы ад сэрцавіны да кары, маюць гэтак званыя гадавыя кругі. Натуральна, падлічыць гады такога дрэва можна толькі пасьля таго, як дрэва сьпілуецца. — Акрамя гэтага, у такіх дрэваў, як звычайная сосна, кедр, дуб, бяроза, асіна, клён і др. можна падлічаць гады—але толькі за моладу — паводле гадавых атожалін (галінак).*

*У фаховай літаратуры знаходзім аб веку паасобных дрэў гэткія лічбы:*

| | |
|---|---|
| *Мамутавае дрэва (сэквая) больш* | *3.000 год.* |
| *Каштан гатунковы „* | *2.000 „* |
| *Гарэх грэцкі „* | *2.000 „* |
| *Дуб эўропэйскі „* | *2.000 „* |
| *Ёлка эўропэйская й сібірс. „* | *1.200 „* |
| *Ліпа шыракалістая „* | *1.100 „* |
| *Платан „* | *1.100 „* |
| *Кедр сібірскі „* | *700 „* |
| *Сосна звычайная „* | *700 „* |
| *Лістаўніца эўроп. (pinus larix)* | *600 „* |
| *Топаль „* | *500 „* |
| *Явар „* | *400 „* |
| *Клён „* | *300 „* |
| *Бук „* | *300 „* |
| *Ясень „* | *300 „* |
| *Ільма (бераст) „* | *300 „* |
| *Вяз „* | *250 „* |
| *Граб „* | *150 „* |
| *Бяроза „* | *150 „* |
| *Вольха „* | *150 „* |



